аплачана агулам.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 14 — Пятніца, 20-га ліпеня 1923 г. — Год I.

## Савецкая амнэстыя.

Усходняе Агенства дае крыху больш падробных ведамасьцей аб савецкай амнэстыі для беларусаў.

Цэнтральныя выканаўчыя камітэты С.С.С.Р. і Б.С.С.Р. абвесьцілі амнэстыю для гэткіх катэгорый беларускіх процісавецкіх дзеячаў:

1) для ўчасьнікаў беларускіх процісавецкіх вайсковых фармаваньняў 1918, 1919 і 1920 гадоў;

2) для беларускіх процісавецкіх палітычных дзеячаў, сябраў нацыянальных беларускіх урадаў, вялікае Беларускае Рады, Найвышэйшае Рады, Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі, Беларускае Вайсковае Камісіі;

3) для былых сябраў беларускае партыі эсэраў, заявіўшых, што згаджаюцца з савецкаю ўладаю;

4) для ўсіх беларускіх сялян, якія належалі да процісавецкіх выступленьняў.

Як бачым, савецкая ўлада, стануўшы выразна на грунт прызнаньня нацыянальнае ідэі ў будаўніцтве савецкіх рэспублік, дайшла да лягічнага канца і зьняла ўсе пераследаваньні з тых беларускіх дзеячаў, якія ішлі да зьдзейсненьня свайго нацыянальнага ідэалу дарогамі, нязгоднымі з савецкай ідэалёгіяй.

У гэтым мы бачым рэальны доказ пабеды нацыянальнага прынцыпу ў савецкім дзяржаўным будаўніцтве: аднымі камуністычнымі сіламі нельга пабудаваць вялізарнага, нязвычайна зложнага гмаху Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі, і да гэтае працы маюць магчымасьць прылажыць свае сілы, уняўшы сваю ідэалёгію ўсе жывыя беларускія элемэнты бяз розьніцы партыі і кірунку.

Так савецкая ўлада расчыняе дзьверы Бацькаўшчыны ўсім тым байцом за беларускі нацыянальны і дзяржаўны ідэал, якія дагэтуль бадзяліся на чужыне.

Трэба спадзявацца, што ўзмацуецца цяганьне да Менскага цэнтру і сярод беларусаў Заходняе Беларусі: сколькі тут галадаючых інтэлігентаў, для якіх у межах Польскага Гаспадарства нямашака работы і заробку, сколькі народных настаўнікаў, павыкіданных на брук з зачыненых уладаю школ беларускіх, сколькі пазбаўленых заробку копэратараў і розных спэцыялістаў, засуджаных на галадоўку за іх прыналежнасьць да беларускае нацыянальнаці і за працу для свайго народу...

Такое цяганьне выяўлялася і раней, але шмат каго ўстрымліваў страх: „а што, як мяне там сустрэнуць, як ворага-контррэвалюцыянера?!"—Цяпер няма месца для страху.

Аднак, у нас тутака ўзьнімаецца другі страх: страх перад тым, што рады байцоў за наш народ, за нашу нацыянальнасьць пад уладаю Польшчы шмат аслабеюць. І гэта прымушае нас зьвярнуцца з перасьцярогай да ўсіх тых беларусаў, якія маюць магчымасьць, хоць і галадаючы, ды ўсё-ж: тут служыць беларускай справе.

Хоць і павабны шырокія пэрспэктывы працы ў Савецкай Беларусі, хоць варункі яе пасьля галаданьня ў нас могуць паказацца раем, ды і для Заходнае Беларусі трэба пакінуць столькі сіл, каб наша нацыянальная творчая праца тутака не замерла.

Тут трэба больш ахвярнасьці, больш самазабыцьця, чым дзе-бы то ні было, бо тут праца найцяжэйшая. Але тут і найбольшая небясьпека для самага нашага нацыянальнага існаваньня. Тут наш найдалейшы заходні форпост, для якога патрэбны наймацнейшыя, найдужэйшыя культурныя працаўнікі.

Няхай-жа беларускае грамадзянства з гэтым паважна лічыцца, няхай плянова праводзіць эміграцыю на Усход, каб не загубіць нашага Захаду.

**К. Фалькевіч.**

## На фоне Рыскай канфэрэнцыі.

Сусьветная вайна і Вялікая Расейская Рэвалюцыя паставілі на парадак дня практычнае вырашэньне пытаньня аб самаазначэньні нацыянальнасьцей. Гэтае пытаньне было разьвязана зусім няпоўна і надта няўдала. На руінах перамоканых вялікіх імпэрый Расеі, Аўстрыі, часткова Нямеччыны паўсталі дробныя дзяржавы, дзяржаўныя граніцы якіх зусім не адпавядалі іхным этнаграфічным межам і не забясьпечвалі ім магчымасьці самадзельнага эканамічнага разьвіцьця.

Інакай і быць не магло. Капіталізм даваенных вялікіх дзяржаваў, уключаўшых у свае межы вялізарныя абшары і меўшых на мэце збыт сваей прадукцыі на колёніяльных рынках,—зусім ня лічыўся з тым, каб забясьпечыць самастойнае эканамічнае разьвіцьцё паасобных этнаграфічных абшараў—маючы на мэце арганізацыю сваей гаспадаркі, выключна, з пункту гледжаньня інтарэсаў дзяржавы, як цэлага арганізму, ігнаруючы інтарэсы. інаплеменных. абшараў.

Перакройка карты Эўропы, стварыла рад незалежных дробных дзяржаваў, якія самадзельна ні ў якім выпадку ня могуць забясьпечыць сваіх гаспадарчых патрэб. Нават у найбольшай з гэтых новапаўстаўшых дзяржаў—Польшчы—прамысловасьць, дапасаваная заборчымі ўрадамі да патрэб трох зусім розных па свайму эканамічнаму разьвіцьцю і характару арганізмаў, ёсьць чымсь-ці хаотычным і не дапасаваным да патрэб Польшчы, як асобнай эканамічнаў адзінкі. Гэтая акалічнасьць аддае дробныя дзяржавы ў поўную эканамічную залежнасьць ад вялікіх дзяржаў з моцнай капіталістычнай гаспадаркай, і, паскольку гэта карысна для імпэрыялістычных клік міжнароднай буржуазіі, пастольку гібельна для дробных дзяржаў, асабліва для іхных працоўных клясаў, якія падпадаюць пад двайны вызыск, як сваей роднай, так і міжнароднай буржуазіі.

Зусім зразумела імкненьне такіх дробных дзяржаў, якія па свайму географічнаму палажэньню зьяўляюцца як-бы адзіным абшарам, стварыць эканамічна-гандлёвыя, а за тым і палітычныя саюзы, у якіх гэтыя краіны, ўзаемна дапаўняючы адна другую з эканамічнага боку, стваравоючы ў пэўнай меры адзіны гаспадарчы арганізм, маглі-б выявіць і моцны адпор вызыску вялікадзяржаўных апякуноў. Але супярэчнасьць інтарэсаў буржуазіі розных краёў, адсутнасьць сваей самадзельнай палітыкі—бо бадай кожная з іх мае свайго вялікадзяржаўнага апякуна, які і кіруе іхнай палітыкай выключна ўва ўласных інтарэсах—прыпадкова ўстаноўленыя паміж імі граніцы, стварыўшыя балючыя пытаньні нацыянальных меншасьцей,—перашкаджаюць ім стварыць так патрэбныя і карысныя саюзы.

Нядаўна ў Рызе адбылася канфэрэнцыя Балтыцкіх дзяржаваў: Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі і Польшчы. Літва, якая ляжыць паміж гэтых дзяржаваў, учасьця ў падобных канфэрэнцыях не бярэ з таго часу, як прыймае ў іх учасьце Польшча, — з прычыны тых тэрыторыяльных непаразуменьняў, якія істнуюць паміж гэтымі дзяржавамі ў пытаньні аб Віленшчыне. Але балтыцкі саюз бяз Літвы быў-бы абсурдам і з гэтай прычыны ўсе папярэднія канфэрэнцыі кончыліся нічым.

Другой прычынай безнадзейнасьці гэтых канфэрэнцый—гэта страх Эстоніі, Латвіі і Фінляндыі перад Польшчай і ейнай—вярней дыктуемай ёй праз Францыю — палітыкай. Займаючы абшары па Балтыцкаму пабярэжжу і адзяляючы Нямеччыну ад С.С.С.Р., Балтыцкія дзяржавы зьяўляюцца натуральным абшарам для транзыту болшай часткі прадукцыі С.С.С.Р. і гандлёвых зносін паміж гэтымі дзяржавамі, адсюль зусім зразумела імкненьне падтрымаць добрасуседзкія адносіны з імі, а асабліва з С.С.С.Р., эканамічная сувязь з якім для ўсіх ясна. Але адносіны Польшчы да С.С.С.Р. і Нямеччыны зусім іншыя. Тут Польшча прымушана вясьці такую палітыку, якая зусім не мае на мэце задаваленьне жыцьцёвых патрэбаў польскага народу, а палітыку патрэбную для Францыі, для ўмацаваньня яе гэгемоніі ў Эўропе і зусім натуральна, што Балтыцкія дзяржавы бачаць у цесным саюзе з Польшчай небясьпеку быць уцягнутымі ў вайну, якая грозным зданьнем павісла над Эўропай. Вось дзеля чаго Фінляндыя, якая менш другіх зацікаўлена ў эканамічным супрацоўніцтве з Польшчай, адмовілася ратыфікаваць падпісаную ў свой час гандлёвую ўмовы з Польшчай.

Але калі-б нават усе гэтыя труднасьці і былі абойдзены, трэба адзначыць, што і тады Балтыцкі саюз ня быў-бы поўным і не дапяў-бы зьдзейсьненьня аснаўных мэтаў. Беларускія абшары, так цесна зьвязаныя з Балтыцкім пабярэжжам, павінны-б былі ўвайсьці ў гэты саюз. Але пакуль істнуе падзел Беларусі, аб гэтым ня можа быць гутаркі.

Мы яшчэ ня ведаем афіцыяльных пастановаў Рыскай канфэрэнцыі, але можна сказаць напэўна, што яны далёкі ад рэалізацыі Балтыцкага саюзу.

Пакуль істнуе сучасны капіталістычны лад у Эўропе, збудаваны на вызыску, як адзінак, так і цэлых народаў,—пытаньне аб эканамічным вызваленьні дробных дзяржаў з-пад вызыску вялікіх ня можа быць разьвязана, як ня можа быць справядліва разьвязана і пытаньне аб вызваленьні недзяржаўных народаў з пад эканамічнага і нацыянальнага прыгнечаньня сучасных іх валадароў. Толькі вялікі саюз усіх эўрапейскіх народаў правільна вырашыў-бы гэтыя пытаньні, даў-бы маг-

